# Голас Радзімы

№ 28 (2170)
12 ліпеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Нават у наш нялёгкі час сацыяльных зрухаў, упадку ў эканоміцы, абвастрэння ўсіх грамадскіх праблем людзям, хоць зрэдку, патрэбна свята. Рэдкія мінуты эмацыянальнага адпачынку, разняволення памагаюць перамагаць напружанне сучасных складаных будняў, вытрымліваць жыццёвыя выпрабаванні. Можа таму прыйшло ў адну з чэрвеньскіх нядзель добрае, гучнае свята ў невялікі Лепель на Віцебшчыне. І прычына адпаведная знайшлася — дзень нараджэння горада: 551 год—хіба не нагода!! Вырашылі — зрабілі. І загула цэнтральная плошча: натоўпы святочна апранутых людзей, на спецыяльна падрыхтаванай сцэне змяняюць адзін аднаго самадзейныя артысты. Крыху ўбаку раскінуўся кірмаш: на ім дэманстравалі, хто на што здатны, усе жадаючыя — ад вучняў сярэдніх школ да ўмельцаў мясцовых прадпрыемстваў. А гасцей святочна частавалі смажанай бульбай. Спакон веку бульба—першая яда на Беларусі. Наогул жыхарам Лепельшчыны ёсць што паказваць гасцям і чым ганарыцца. Адзін толькі Бярэзінскі біясферны запаведнік чаго каштуе. Без перабольшання можна сказаць, што гэта адно з самых прыгожых месцаў рэспублікі. Тут табе і зубры, і ласі, і кабаны, і казулі, мядзведзі, бабры, вавёркі, норкі — усіх і не пералічыць. Таму і турысты едуць на Лепельшчыну з задавальненнем. Гэта цудоўны край, тут шчырыя, працавітыя людзі.

НА ЗДЫМКАХ: у час свята горада ў Лепелі.

Фота С. КРЫЦКАГА.







## *ДУМКІ ПРА РОДНАЕ*

# РАЗВІТАННЕ З ВІШНЁЎКАЙ

Бярвенні рыпяць, быццам крычаць, супраціўляюцца жалезнаму лому, што з усіх сіл намагаецца аддзяліць іх адно ад аднаго, якія за дзесяцігоддзі сталі адзіным цэлым. Не перадаць словамі жудасці таго скрыгату, што стаіць над яшчэ ўчора самай ціхай вулачкай. Гэта голас маёй радзімы, дзесяці хат, якія прастаялі тут па 50—60 гадоў. І спытайце ў любога карэннага жыхара Салігоршчыны, ці было ва ўсёй акрузе месца, прыгажэйшае за Вішнёўку, маленькую і па-вясковаму ўтульную. «Не было,— адкажа.— І ўжо не будзе».

У 1928 годзе паставіў тут першы будынак мой прадзед —Антось Вішнеўскі. Перабраўся сюды з Чыжэвіч з усёй сям'ёй — жонкай і сямярымі дзецьмі. Старэйшаму Якубу было 23 гады. У той час ён ужо настаўнічаў. Маёй бабулі—16.

Зімавала ж сям'я Антося ўжо не адна. Непадалёку вырасла хата яго будучага зяця, майго дзеда Тодара. А насупраць — хата малодшага брата Антося — Ёсіпа Вішнеўскага. Два браты Шуневічы — Міхал і Павел — таксама паставілі тут свае хаціны. Ніякага архітэктара не было, а хаты будаваліся ў два рады, адна насупраць адной, хаця і не адначасова, і не ў парадку нумарацыі. І атрымалася вуліца, уздоўж якой з абодвух бакоў пасадзілі маладыя вішні. Зазелянелі яны, кожную вясну абсыпаныя белым снегам квецені, штолета дорачы шчодры ўраджай. Гэтыя вішні ды яшчэ прозвішчы першых жыхароў і далі назву маленькаму, з дзесяці хат, паселішчу.

...На ўсю акругу славіліся музыканты Вішнеўскія — браты Якуб, Пятрусь і Павел, без якіх не абыходзілася ні адно вяселле ці свята. Так іх і звалі — музыкі Вішнеўскія.

— Толькі сонейка садзілася, — расказваюць старажылы, — іх музыка збірала моладзь на вячоркі.

На многіх інструментах ігралі браты, але асабліва любілі скрыпку і кларнет.

— А як гаравала я, што мой муж танцаваць не ўмее. Бо ж так любіла танцаваць,— гаварыла мне бабка Алена.

Мілая мая бабуля, каб ведала яна, колькі гора давядзецца яшчэ перажыць ёй за доўгае жыццё, то нязграбнасць яе Тодара ў танцах здалася б шчасцем...

У хуткім часе пакінулі бацькоўскі дом Якуб і Павел. Адзін — па размеркаванню, другі — следам за ім. Паехалі ў Тульскую вобласць. Але на радзіму браты наведваліся часта. А ў 37-м прыйшла ў дом Антося страшная вестка: абодвух яго сыноў — капельмайстра Якуба і Паўла, самога супрацоўніка НКУС, — рэпрэсіравалі. У лісце Павел напісаў: «Не турбуйцеся, мы ні ў чым не вінаватыя. Хутка гэта непаразуменне высветліцца». Лістоў больш не было. Абодва браты згінулі назаўсёды. Хаця ў Вішнёўцы іх вельмі доўга яшчэ чакалі.

...Пачалася вайна. І ў тыя гады пахавала мая бабуля дванаццацігадовага сына і сямігадовую дачку. А ў 45-м прыйшло пісьмо ад мужа з Усходняе Прусіі. Пісаў, што паранены ў галаву, але не цяжка... Праз месяц, 20 лютага, ён памёр у маскоўскім шпіталі, пакінуўшы траіх сірот. Старэйшай дачцэ, маёй маці, споўнілася толькі дзевяць год. Там жа, у Маскве, Тодара і пахавалі.

Так і засталася Алена ў трыццаць тры гады ўдавою, хаця ўжо на маёй памяці прыходзілі да яе ў сваты. Гадавала дзяцей, унукаў, была лепшаю даяркаю на ферме. А яшчэ, як дэпутат мясцовага Савета і проста як чулая жанчына, дапамагала многім людзям.

...У маі таго ж 45-га атрымалі пісьмо ад Аркадзя —самага малодшага з братоў Вішнеўскіх. З радасцю пісаў ён, што ўжо відзён Берлін. А ў Дзень Перамогі ў сям'і і святкавалі, і гаравалі. Стагнала мая прабабка, крычала на ўсю ваколіцу, пакуль не ўпала ў непрытомнасці. У гэты дзень прыйшоў ліст ад аднапалчаніна Аркадзя, які паведамляў, што пахаваў ён свайго лепшага сябра ля чужое царквы, зусім блізка ад Берліна. Ішоў Аркадзю 23-ці год. І тыя, хто памятаў яго маладым і прыгожым, расказвалі мне, які сціплы і добразычлівы быў гэты юнак...

Толькі Пятрусь, паранены, вярнуўся з тае вайны. І сёння згадваю, як цудоўна грала яго скрыпка, як бясконца адчайна і весела спявалі яе струны.

Глядзяць на мяне са старых фотаздымкаў бабулін муж і трое яе прыгожых братоў. Глядзяць, жалобай напаўняючы маё сэрца, чацвёра маіх дзядоў, якія дзядамі ніколі не былі. І магілы іх вельмі далёка ад Вішнёўкі, ад гэтых прыгожых мясцін, з якіх пайшлі яны ў нябыт. А хутка і саму гэту вёсачку паткае небыццё...

...Які ж скрыгат стаіць над вуліцай. Жудасны. І я з дачушкай іду на яго, іду да цётчынай хаты. Сама цётка Тома сышла ў гэты дзень адсюль: «Хай робяць, што хочуць — не магу глядзець».

Дужыя хлапцы адрывалі страху. Цяжка адрывалі, яна ніяк не хацела паддавацца. Адзін сказаў, паказаўшы ў наш бок: «Глядзі ты, плача». А другі дадаў: «Нічога, бывае і горшае». Усё гэта бясспрэчна. Але...

Зайшлі мы і на руіны хаты дзеда Ёсіпа — старыя, ужо нікому не патрэбныя рэчы, раскіданая печ і абсыпаныя завяззю галіны яблынь, здаецца, са здзіўленнем глядзяць у неіснуючыя вокны. І сцежачка. Раней — да парога. Цяпер — у нікуды...

А, напэўна, нямногія мае землякі ведаюць, што Салігорск пачынаўся менавіта адсюль, ад Вішнёўкі, і нават ад самага бабулінага агарода. Была яшчэ зусім малая, але добра памятаю вялікую брызентавую палатку, якая стаяла на месцы старога вакзала, якраз насупраць нашай хаты. Памятаю многіх незнаёмых людзей, якія заходзілі да нас, а некаторыя і жылі ў нашай хаце. Гэта былі першыя будаўнікі Салігорска. А яшчэ памятаю шырокае жытнёвае поле, якое пачыналася з узгорка, таксама адразу за нашым агародам (ад цяперашняй вуліцы Заслонава), і цягнулася амаль да самай рэчкі Случ.

Памятаю лес на месцы цяперашняй бальніцы, восьмай і дзевятай школ. Лісу, якая перабягала дарогу, калі мы ехалі да дзеда Юсціка. І могілкі на Юсцікавай гары, дзе пахаваны малодшыя брат і сястра майго бацькі.

Але галоўны мой успамін —наша рэчка. Вузенькая, чыстая — кожная рыбіна відна ў глыбіні — то са спадзістымі пясчанымі, то з крутымі лясістымі берагамі, наша Случ. Мой тата расказваў, якіх самоў лавілі яны тут у дзяцінстве. Самоў я не памятаю, а вось велізарных шчупакоў і ментузоў, пляскатых карасёў і лінёў, сярэбраных плотак і піскучых уюноў прыносіў тата з рыбалкі.

Мне няпроста пісаць пра маю Случ, бо жыву я на вуліцы Набярэжнай ужо пятнаццаць гадоў і заняпад рэчкі ў поўным сэнсе гэтага слова адбываецца на маіх вачах. Ды і само слова «рэчка» неяк выпала з лексікону салігорцаў.

Я пытаю ў сваёй дачушкі-першакласніцы, якія рэкі яна ведае.

— Волга, Вісла, вадасховішча,.. — адказвае яна.

Я спыняю сваю разумніцу і кажу, што няма такой рэчкі — вадасховішча.

— Ты што, мамачка, у нас жа ў Салігорску ёсць.

— А рэчку Случ ты ведаеш?

— Случ? Не.

...Сёння я развітваюся з Вішнёўкай, а з рэчкай сваёй, якая стала амаль мёртвай зонай нашага горада (не загараюць, не купаюцца тут людзі, нават не кожная рыба выжывае ў ёй), развіталіся мы ўжо даўно.

Да ўсяго прывыкаюць людзі. Калечаць прыроду—прывыкаюць і да гэтага. І як раней нельга было ўявіць сабе Салігорск без Случы, так і цяпер цяжка ўявіць, што калі-небудзь мы зноў зможам плаваць у нашай рэчцы. Прывыкну я і да таго, што няма ўжо Вішнёўкі. Але ўспамінам маім без гэтай хаты, што пабудаваў дзед, і той, старой, яшчэ прадзедавай, не будзе так утульна і прывольна ні на гэтым месцы, якое забудуецца вышыннымі дамамі, ні ў якім іншым...

Даўным-даўно адправіўся мой прадзед Антось у Амерыку да свае малодшае сястры Марыі, якая яшчэ да рэвалюцыі паехала туды, выйшла замуж ды так і засталася назаўсёды. Хутка стаў ён клікаць да сябе і жонку з дзецьмі. А тая ніяк не магла рашыцца. Больш за год прайшло, і вярнуўся Антось на радзіму.

— Добра, Акулінка, у Амерыцы. Вельмі добра жывуць там людзі. Але..,

Але не змог пакінуць ён зямлю, дзе пахаваны яго продкі, дзе нарадзіліся дзеці. Вярнуўся. А гаспадарку сваю стараўся наладзіць так, як навучыўся там, за акіянам, як падказвала яму сялянская кемлівасць. Можа, і была б за ўсім гэтым будучыня, каб не тыя «вялікія пераўтварэнні», што ішлі ў той час у нашай краіне. Ды і сам Антось цудам уратаваўся ад сталінскіх рэпрэсій.

А можа і рэчку нашу зберaглі б сёння, і чыстае асяроддзе, і нават маленькую Вішнёўку, каб не тыя «навацыі», якія яшчэ да нядаўняга часу былі законам нашага жыцця. І чым хутчэй пазбавімся мы ад іх водгаласаў, чым хутчэй спынімся і перастанем жыць па інерцыі, чым хутчэй павернемся да патрэб кожнага асобнага чалавека, тым больш рэк і рачулак, Пясчанак, Пакровак і Вішнёвак застанецца жыць.

...Тры хаты засталося на Вішнёўцы. Бабуліна таксама яшчэ стаіць. Ніяк не хоча старая пераязджаць у гарадскую кватэру. Ніяк не можа развітацца з Вішнёўкай, з вішнямі, якія пасадзіла яшчэ ў маладосці. І перасяліцца ёй цяпер гэтак жа цяжка, як вырваць тыя старыя вішні з бацькоўскай зямлі, у якую так моцна ўраслі яны сваімі каранямі.

**Яўгенія СТРАЦКЕВІЧ.**

## АКЦЫЯ «САЛІДАРНАСЦЬ З ДЗЕЦЬМІ ЧАРНОБЫЛЯ»




# ПАВЕТРАНЫ МОСТ ДАПАМОГІ

Сёння, калі аб сапраўдных маштабах вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС для Беларусі стала вядома грамадскасці за мяжой, у адрас рэспубліканскага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна паступаюць шматлікія прапановы дапамогі дзецям ад замежных фірм, арганізацый, нашых суайчыннікаў. Вельмі хочацца верыць, што паспяховай і плённай стане і буйнейшая Міжнародная акцыя «Салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля». Арганізатары яе — Міжнароднае Бюро скаўтаў і Савецкі дзіцячы фонд пры пасрэдніцтве Пастаяннага прадстаўніцтва СССР пры ЮНЕСКА. Галоўная задача — аздараўленне, адпачынак дзяцей ў летніх лагерах скаўтаў.

1 235 юных пасланцоў Беларусі запрошаны ў 15 краін Заходняй Еўропы: Фінляндыю, Люксембург, Англію, Бельгію, Данію, Грэцыю, ФРГ, Нідэрланды, Кіпр... [illegible] з аэрапорта «Мінск-2» авіялайнеры з дзецьмі вылятаюць у Францыю, Швейцарыю, Ірландыю. А першая група — сто хлопчыкаў і дзяўчынак з раёнаў павышанага радыяцыйнага ўзроўню Гомельскай вобласці ўжо ў Іспаніі і, хутчэй за ўсё, паспелі пазнаёміцца і пасябраваць з іспанскімі равеснікамі.

Кошт адпачынку аднаго дзіцяці складзе 600 долараў. Але ўсе расходы ўзялі на сябе арганізатары акцыі. Дзіцячы фонд заказаў прыгожае адзенне, зручны спартыўны абутак, шапачкі з эмблемай фонду, паклапаціўся, каб для падарункаў былі нацыянальныя сувеніры, значкі. У Іспаніі беларускія школьнікі сустрэнуцца са сваімі равеснікамі. Мараць яны і навучыцца іспанскай мове (адно вельмі патрэбнае слова ўжо засвоілі: аміга — па-іспанску сябар).

Вядома, дзяцей, якія б жадалі адпачыць у замежных лагерах скаўтаў, намнога больш, чым выдзелена пуцёвак. Таму Дзіцячы фонд аддае перавагу ў першую чаргу сацыяльна неабароненай катэгорыі дзяцей з раёнаў з павышаным радыяцыйным узроўнем. Гэта выхаванцы дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў, дзеці з малазабяспечаных, мнагадзетных і няпоўных сямей, хто жыве пад апекай.

У аэрапорце я пазнаёмілася з некаторымі дзецьмі, у кожнага з іх, на жаль, свая трагедыя. У Люды Прусаковай з Калінкавіч, напрыклад, памерлі бацькі, жыве яна ў старой бабулі. У яе сяброўкі Наташы Грыц няма бацькі, мама адна выхоўвае чацвёра дзяцей. Віця Цераха ў не помніць бацькоў, даўно ў інтэрнаце.

Амаль для ўсіх гэтых дзяцей такая паездка — першая ў жыцці. Няхай застануцца аб ёй самыя светлыя, цёплыя ўспаміны!

**Людміла ГРАМОВІЧ,**
**рэферэнт Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.**

# *НАПЕРАДЗЕ ШМАТПАРТЫЙНАСЦЬ?*

Не зусім звычайныя падзеі адбываюцца на Беларусі: афіцыйна абвясцілі пра сябе некалькі новых палітычных партый.

Створаны ў Брэсце аргкамітэт Рэспубліканскай партыі Беларусі месяц назад зацвердзіў праекты статута і праграмы. Апошняе яго рашэнне — выходзіць за межы вобласці, ствараць партыю сапраўды рэспубліканскую, парламенцкага тыпу, рэальную палітычную сілу, абапіраючыся на падтрымку ўсіх слаёў насельніцтва Беларусі.

Акрэслена палітычная арыентацыя новага аб'яднання. Гэта адраджэнне свабоднай асобы як асновы грамадзянскага грамадства, стварэнне прававой, дэмакратычнай, самакіруемай дзяржавы. Адмова ад дыктатуры любога віду, любога класа, адмова ад манаполіі на ўладу, ідэалогію якой-небудзь адной партыі, руху, арганізацыі. Члены партыі выступаюць за дэідэалагізацыю культуры, адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі, узброеных сіл, дзяржаўных выканаўчых органаў. У дзяржаўным ладзе галоўнае — суверэнітэт Беларусі, саюз з іншымі рэспублікамі павінен стаць не прымусовым, а эканамічнай і палітычнай патрэбай. Выхад жа з Саюза, калі такое здарыцца, будзе найцяжэйшым пакараннем.

У эканоміцы прапануецца свабоднае развіццё экалагічнай эканомікі пры розных формах уласнасці, рыначных адносінах, свабодным прадпрымальніцтве, заахвочванні прыватнай ініцыятывы. Гэта з аднаго боку. З другога — дзяржаўная абарона сацыяльных правоў і забеспячэнне патрэб грамадзян рэспублікі. Чалавек павінен валодаць не толькі палітычнай, але і эканамічнай незалежнасцю, толькі на гэтай падставе можа быць пабудавана эканамічна незалежнае грамадства.

У Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Сваю задачу яна бачыць, па словах яе стваральнікаў, у тым, каб дабіцца сапраўднай палітычнай незалежнасці Беларусі, перастаўшы, нарэшце, няспынна азірацца на рашэнні Масквы. Стварэнне свабоднай эфектыўнай эканомікі. Галоўнае ж — адраджэнне беларускай нацыі, нацыянальнай самасвядомасці, адчування кожным чалавекам прыналежнасці да беларускага народа, а не проста насельніцтва тэрыторыі.

 № 28 (2170), 12 ліпеня 1990 г.

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# СЛАВУТЫЯ АДВАГАЙ НА ВАЙНЕ

**Сёлета спаўняецца 580 гадоў адной з найвялікшых бітваў у свеце — Грунвальдскай. Гэтай падзеі прысвечана кніжка С. Цярохіна «Славутыя адвагай на вайне», якая хутка выйдзе ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы».**

**Час наш адметны тым, што мы маем жаданне і магчымасць азірнуцца на сваё мінулае, запоўніць «белыя плямы» ў гісторыі, па-новаму асэнсаваць, здавалася б, даўно вядомыя прапісныя ісціны. Аўтар кніжкі на падставе новых крыніц, уважліва ўчытаўшыся ў іх, расказвае пра ўклад беларускіх палкоў у перамогу над крыжакамі пад Грунвальдам. Сёння мы пачынаем друкаваць урыўкі з твора С. Цярохіна.**

## ПАД ПАГРОЗАЙ АГНЮ І МЯЧА

*Кожны народ не без роду і племя і мае Летапіс свой і гісторыі след на старонках.*

**М. Гусоўскі. «Песня пра зубра». 1523 г.**

На векапомных скрыжалях ратнай гісторыі беларускага народа нямала славутых перамог, пазначаных гетманскім талентам і шчодра акропленых самаахвярнай крывёю мужных ваеўнікоў з-пад Дзвіны, Бярозы, Дняпра, Нёмана, Віллі, Шчары, Свіслачы, Пцічы, Прыпяці, Струменя, Піны, Ясельды, Лясной і Буга. Нашым прашчурам, як ніводнаму, пэўна, народу, часта даводзілася мячом і тарчай бараніць родную зямлю ад сквапных на чужое, ненажэрных хціўцаў. Бараніць свой самаісты трыб жыцця, свае звычаі і традыцыі, сваё права на існаванне, права людзьмі звацца і быць роўнымі сярод роўных.

Ваяцкі гарт здабываўся цяжкім вопытам у шматлікіх пагранічных сутычках, пагонях (адсюль і наш герб), паходах, малых і вялікіх бітвах, сярод якіх прамяністымі зоркамі ў вянку вайсковай славы нязгасна ззяюць бітвы, а дакладней, пабоішчы пад Крутагор'ем і на Сіняй Вадзе, пад Грунвальдам і Хоцінам.

Але што мы пра іх ведаем?

Пра адны — амаль нічога, акрамя голага факта і даты, пра другія — нават і не чулі.

Па ўсім белым свеце расцярушылася наша спадчына: што трапіла ў суседскія засекі і ўзбагаціла іх гісторыю і культуру, што мёртвым друзам лягла на замшэлыя паліцы сутарэнняў, недасяжных даследчыкам архіваў і «спецхранов», што беззваротна згінула ў полымі шматлікіх войнаў, а што занядбана па сваёй недаравальнай абыякавасці, празмернай шчырасці і даверлівасці. «Пакуль царызм,— з горыччу і невымоўным болем пісаў У. Пашута,— шкамятаў і калечыў Украіну, Беларусь, Літву і іншыя народы ў рэальным жыцці, гісторыкі рабілі тое самае з гісторыяй гэтых народаў у сваіх працах». Тое самае, а ў асобных выпадках нават у большых маштабах, адбывалася і пасля рэвалюцыі. Імперская палітыка метраполіі ў адносінах да іншых народаў засталася нязменнай, адно толькі пераапранулася ў тогу «пралетарскай інтэрнацыяналізацыі».

Праўда, ужо не пісалі адкрыта, што ў беларусаў «сардэчна-дапытлівы позірк велікаруса замяніўся тупым, баязлівым; замест адкрытасці характару — падазронасць і нелюдзімасць, замест велікарускай здольнасці да ўсяго і кемлівасці — гультайства і тупасць розуму». І гэта пісалася не ў гады сівой старажытнасці, а ў пачатку нашага XX стагоддзя. Няцяжка зразумець, якое ўяўленне пра нашых землякоў фарміравалася ў моладзі. А калі ў гімназію трапляў наш брат-беларус, дык ён ад сваёй беларускасці адхрышчваўся, як той чорт ад ладану. А каму, спытайцеся, ахвота хадзіць у дурнях? Быць ізгоем? Гэтак народ страчваў свой інтэлектуальны патэнцыял. Гэтай жа мэце служыла і фальсіфікацыя гісторыі, яе замоўчванне і скажэнне.

Як ні дзіўна, але падобныя сентэнцыі калі-нікалі можна сустрэць і ў наш час. У 1982 годзе выдавецтва «Молодая гвардия» стотысячным тыражом выпусціла ў свет кнігу дарэвалюцыйнага краязнаўцы С. Максімава «Куль хлеба». Кніжка цікавая, яе выданне не выклікае сумнення, але ў ёй ёсць моманты, якія ў абавязковым парадку неабходна было пракаменціраваць, хоць бы ў падрадковай зносцы. Аднак сваіх адносін да сумніцельных і абражальных фактаў не выказалі ні аўтары прадмовы і заключнага артыкула, ні само выдавецтва. Так звычайна бывае, калі цалкам падзяляецца ўся канцэпцыя кнігі або калі выдаўцы і рэцэнзенты не кампетэнтныя ў пытаннях, разглядаць якія ўзяліся. А выказванні С. Максімава аб Беларусі і беларусах не маглі не звярнуць увагі. Мяркуйце самі: «Ніякіх рамёстваў яны не ведаюць, ні да якіх пабочных промыслаў не прызвычаены: бедны народ!». Адным словам, дзікуны. Хто больш-менш знаёмы з гісторыяй, ведае, што да ўз'яднання Беларусі з Расійскай імперыяй у 1772—1795 гадах у гэтага беднага народа існавала больш як дзвесце рамесніцкіх прафесій. Многія рамёствы, у тым ліку шмат якія віды мастацтва, на радзіму С. Максімава прынеслі менавіта беларусы.

Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зазірнуць у кнігу І. Забеліна «Домашний быт русских царей в XVI—XVII веках» (1918 год). Не хто іншы, як беларусы, стаяць ля вытокаў рускага кнігадрукавання. У заснаванай Іяган Місінгеймам Бокбіндзерам [illegible]істрам Гансам першай маскоўскай друкарні працавалі дыякан Іван Фёдараў і Пётра Мсціславец, абодва, дарэчы, выхадцы з Беларусі. Высокі аўтарытэт беларускія майстры мелі ў г[illegible]е вытворчасці зброі. З к[illegible] А. Віктарава «Описание записных книг и бумаг старинных дворцовых приказов» даведваемся, што ў XVII стагоддзі маскоўскі ўрад запрашаў беларускіх броннікаў са Шклова, Магілёва, Барысава, Мінска і іншых гарадоў для арганізацыі вытворчасці агнястрэльнай зброі. Дарэчы, сучасная маскоўская вуліца Малая Бронная мае беларускае паходжанне. Цікава: высокі прафесійны цэнз беларускіх рамеснікаў традыцыйна ўтрымліваўся ў Расіі на працягу некалькіх стагоддзяў. Адным з апошніх выяўленняў яго на практыцы з'яўляецца будаўніцтва ў 1924 годзе маўзалея У. І. Леніна майстрамі з вёскі Грабаўка Гомельскай вобласці.

Парадаксальная з'ява: да рэвалюцыі і ў першыя гады Савецкай улады, прыкладна пры жыцці У. І. Леніна, прагрэсіўныя даследчыкі ў адрозненне ад афіцыйных гісторыкаў сталінска-брэжнеўскага перыяду мелі значна большую магчымасць выказваць свае думкі і аб'ектыўна асвятляць мінулае. Возьмем таго ж С. Максімава. У якасці эпіграфа да аднаго з раздзелаў нарыса «Белорусская Смоленщина с соседями», змешчанага ў трэцім томе «Живописной России», ён спакойна, без агляднкі на цэнзуру, ужывае з паметай «Гавораць беларусы» наступную прымаўку: «Ад чорта адхрысцішся, а ад маскаля не адмолішся: ад маскаля полы ўрэж ды ўцякай». З фальклору, як і з песні, слова не выкінеш. Але быў час, была эпоха, калі жывое цела народнай творчасці крыжавалі ўздоўж і ўпоперак, а фалькларыстаў у лепшым выпадку адпраўлялі ў шматгадовыя экспедыцыі без права перапіскі.

Афіцыёзная гістарыяграфія існавала не толькі ў гады адміністрацыйна - бюракратычнай дыктатуры, паспяхова працвітала яна і да рэвалюцыі, паслухмяна абслугоўваючы палітыку вялікадзяржаўнага шавінізму, але тады яна не мела татальнага, усёпаглынальнага характару. Аднак стыль і методыка працы ў артадоксаў ад гісторыі нічым не розніцца. Аднолькавыя ў іх і мэты: адны абгрунтоўвалі, да прыкладу, тэзіс «адзінай рускай народнасці», які і цяпер сёй-той перацірае спарахнелымі сківіцамі, другія да хрыпаты даводзілі пра «гістарычна абумоўленае ўтварэнне адзінай этнічнай супольнасці — савецкага народа», атрымаўшага ў народзе назву «гома савецікум». Усе гэтыя «тэарэтычныя пастулаты» ўтрымлівалі палітычныя памкненні кіруючых колаў і грунтаваліся, як паказала гісторыя, не на аб'ектыўных жыццёвых рэаліях, а на свядомым скажэнні праўды, на руйнаванні народных звычаяў і традыцый, на выкараненні душы народа — яго роднай мовы, выгнанні яе са школы, справаводства, рэлігіі і навукі. Бо толькі бязродных Іванаў, адарваных ад родных каранёў, ад інтарэсаў і патрэб сваіх вёсак, мястэчак, гарадоў, манкуртамі, як называюць іх у Кіргізіі, могуць папіхаць па сваёй прыхамаці людзі выпадковыя і прыблудныя. Атручаны нацыянальным нігілізмам чалавек не вырве, падобна легендарнаму Данка, сэрца са сваіх грудзей, каб асвяціць дарогу сваім блізкім.

Ганебную ролю ў нішчэнні нацыянальнай культуры адыгралі свае янычары, пярэваратні з трыццаццю срэбранікамі ў кішэні замест сумлення ў душы. Але праўду не засланіць аслінымі вушамі, якімі б доўгімі яны ні былі. Народ кажа: «Праўда не цяля—знойдзе круцяля». І гэта сапраўды так. Яна, як мы бачым, бы тая кволая сцяблінка асфальт, прабівае закарэлае шкарлупінне дэмагогіі і адкрытай маны і прагна цягнецца да святла. І прарок сказаў: «Нічога няма тайнага, каб не стала яўным». Так яно і ёсць. Гэтак неўзабаве станецца і з усёй нашай, закутай у ланцугі забароны, слаўнай гісторыяй, у тым ліку і вайсковай. І народ даведаецца, дзе, калі і чаму нашы дзяды і прадзеды садзіліся на каня і ўзнімалі меч.

Гістарычнае значэнне бітваў пад Крутагор'ем, на Сіняй Вадзе, пад Грунвальдам і Хоцінам і шмат іншых далёка перавышае нацыянальныя інтарэсы беларусаў як асобнай этнічнай супольнасці, якая дбае выключна толькі пра сябе. У кожнай з іх, як правіла, вырашаўся лёс і права на далейшае існаванне суседніх народаў. У першую чаргу — украінцаў, літоўцаў, палякаў, а калі браць пад увагу і больш аддалены час, дык і еўрапейскіх народаў. Каб не быць галаслоўным, коратка, літаральна контурна, акрэслім месца кожнай з іх у гісторыі Бацькаўшчыны, а ўжо затым павядзём гаворку пра Грунвальд.

1249 год. Бітва пад вёскай Крутагор'е (цяперашні горад Дзяржынск Мінскай вобласці). У выніку вынішчальнага разгрому арды хана Кайдана Беларусь у адрозненне ад іншых усходнеславянскіх земляў, уключаных сілай татара-мангольскай зброі ў так званы Урускі ўлус Залатой Арды, магутнай феадальнай дзяржавы сцепнякоў, засталася вольнай. Крутагор'е спыніла агрэсію татар на захад і тым выратавала шмат якія еўрапейскія народы ад страшэннай навалы.

Пра маштабы пабоішча на Сіняй Вадзе, дзе ў 1362 годзе вялікі князь Альгерд дашчэнту разбіў полчышчы ханаў Катлубая, Кацібея, Бекера і солтана Дзімітра, можна меркаваць па скупому летапіснаму запісу: «Трупамі, таксама татарскімі, палі і рэкі завалены былі». Перамога на Сіняй Вадзе задаўга да сечы на полі Куліковым, дзе, прынамсі, чынны ўдзел прымалі і беларускія палкі, прынесла вызваленне ўкраінскім землям, у тым ліку і Кіеву, «маці гарадоў рускіх». Валынь, Падолле, сцяпная Украіна на абшары аж да Крыма і вытокаў Дона назаўжды пазбавіліся ад ардынскай няволі. Упершыню на гістарычным небасхіле засвяціўся прамень надзеі выгнання Арды [illegible] астатніх усходнеславянскіх [illegible]стваў.

Пад харугвамі з выявай славутай Пагоні мужна змагаліся беларускія палкі ў 1621 годзе пад Хоцінам, на стромкіх берагах хуткаплыннага Днястра. [illegible]начальная асаблівасць Хо[illegible]кай бітвы — трыумф вайско[illegible] майстэрства над большай у некалькі разоў сілай. Асманская Порта: войска — 200 тысяч, артылерыя — 260 гармат. Армія Польшчы і Вялікага княства Літоўскага: войска — 80 тысяч і 61 гармата. У Асмана II не было нават ценю сумнення ў зыходзе бітвы. Камандуючы каронным і велікакняжацкім войскамі вялікі гетман Я. Хадкевіч, славуты пераможца шведаў пад Кіргхольмам у 1605 годзе, разумеў, на чыім баку будзе перамога ў прамым сутыкненні з праціўнікам. Сітуацыя, да ўсяго, ускладнялася арганізацыйнымі недахопамі, у прыватнасці, марудласцю канцэнтрацыі войска. Усё гэта дужа непакоіла гетмана. Ён з трывогай пісаў Л. Сапегу, канцлеру Вялікага княства Літоўскага: «Калі гэтак справы ідуць спачатку, дык што будзе далей?».

Улічваючы рэальнае становішча, Хадкевіч абраў тактыку актыўнай абароны і загадаў «абстрэльваць ворага і адбіваць яго атакі». Адначасова вымотваць праціўніка раптоўнымі нападамі і сутычкамі. Як паказалі далейшыя падзеі, Хадкевіч і тут, пад Хоцінам, бліскуча пацвердзіў сваё рэнаме таленавітага военачальніка XVII стагоддзя. У рэалізацыі задумы галоўнакамандуючага выдатную ролю адыгралі казацкія загоны Сагайдачнага.

У выніку пыхлівая мара самаўпэўненага Асмана II закабаліць Беларусь, Украіну і Польшчу развеялася, як лёгкі ранішні туман. Султан з недабітай часткай войска ўцёк у Стамбул, дзе неўзабаве абураныя ганебным паражэннем пад Хоцінам янычары схапілі свайго яшчэ ўчора бясконца магутнага валадара і пасля публічнага знясламлення жорстка пакаралі смерцю. Пад Хоцінам захлынулася далейшая экспансія турак на славянскія землі, пачаўся незваротны заняпад дагэтуль магутнай і бязлітаснай да падбітых народаў Асманскай Порты.

Але самае адметнае месца на старонках гісторыі беларускага народа займае Грунвальдская бітва, што 580 гадоў назад адбылася на Мазурскім Паазер'і цяперашняга Альштынскага ваяводства Польскай Рэспублікі. Тут 15 ліпеня 1410 года на акаймаванай лясамі і балотамі невялікай па памерах гарбацістай прасторы паміж вёскамі Грунвальд, Таненберг, Ладвігова і Ульнава саюзная армія Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ўшчэнт здратавала войска Тэўтонскага ордэна, вайскова-духоўнай дзяржавы нямецкіх рыцараў. Каб у поўнай меры ўсвядоміць велічнасць подзвігу нашых гераічных прашчураў, якія без вагання і роздуму клалі жыцці на святы алтар Бацькаўшчыны, і глыбей спасцігнуць гістарычнае значэнне Грунвальда, неабходна хоць бы схематычна акрэсліць асноўныя падзеі, што папярэднічалі генеральнай бітве Вялікай вайны (1409—1411 гадоў).

У пачатку XIII стагоддзя над заходнімі межамі Вялікага княства Літоўскага, аснову якога складалі этнічна беларускія землі, навісла злавесная хмара смяротнай небяспекі. Усё пачалося з тэрытарыяльнага апетыту на чужое Конрада Мазавецкага. У 1226 годзе па запрашэнню непрадбачлівага князя на Хелмскай зямлі атабарыўся Ордэн Найсвяцейшай панны Марыі, больш вядомы як ордэн крыжакоў. Сквапнасць памуціла розум Конрада, і ён спадзяваўся прыбраць да сваіх рук зямлю балцкага племені прусаў пры дапамозе шчодрых на салодкія абяцанні чужынцаў. Аднак крыжакі не збіраліся цягаць з агню каштаны для праставатага ляха. Яны загадзя заручыліся пісьмовай згодай імператара Фрыдрыха II на асабістае валоданне захопленымі тэрыторыямі язычнікаў-прусаў. Больш таго, крыжакі з цягам часу адарвалі ад уладанняў Конрада Мазавецкага Памор'е і прымусілі яго аддаць ім назаўжды Хелмскую зямлю, якая па папярэдняй дамоўленасці была перададзена ордэну толькі на 20 гадоў. Пагонішся за чужым — страціш сваё. Гэтак якраз сталася з няўдалым мазавецкім палітыкам. Да ўсяго ён трапіў у мулкую пятлю залежнасці ад крыжакоў, крывадушша якіх, прыкрытае святым крыжам, не ведала межаў. Больш таго, ён і яго спадкаемцы неаднойчы вымушаны былі выступаць на баку ордэна супраць сваіх супляменнікаў. Умацаваўшыся, ордэн скіраваў вастрыё сваёй захопніцкай палітыкі супраць суседзяў, у першую чаргу супраць Вялікага княства Літоўскага і Польшчы.

Асабліва ўзрасла пагроза пасля заснавання ў 1237 годзе Тэўтонскага ордэна, які ўзнік у выніку аб'яднання з разбітым войскам Вялікага княства Літоўскага ў 1236 годзе ордэнам Братоў хрыстовага воінства, створанага яшчэ ў 1207—1209 гадах з ініцыятывы таго ж Конрада Мазавецкага. Гэты ордэн з гасподай у польскім горадзе Добжынь па выяве чырвонага мяча на белым плашчы больш вядомы як ордэн мечаносцаў (арганізацыйная структура і дух якога надзвычай падабаліся прамудраму бацьку і настаўніку ўсіх народаў).

Адначасова, у тым жа 1237 годзе, пад эгідай тэўтонцаў у Прыбалтыцы ўзнік яшчэ адзін фарпост нямецкай агрэсіі на Усход — Лівонскі ордэн, які амаль адразу ж, як толькі апярыўся, распачаў барацьбу з Полацкім княствам.

Беларусы і літоўцы мусілі бараніцца і з кожным годам адбіваць шматлікія спусташальныя напады з Прусіі і Лівоніі. Бараніліся і амаль заўсёды давалі належны адпор, наладжвалі пагоні для адбіцця палонных і лупу, хадзілі ў рэйды помсты ў глыб тэрыторыі грабежнікаў.

**Станіслаў ЦЯРОХІН.**

**(Працяг будзе).**

